**У нумары:** ШМАТ ЦІКАВАГА ПРА НАШЫХ ЗЯМЛЯКОЎ ○ Найноўшыя весткі пра электрыфікацыю ○ Як заўсёды, шмат цікавага гумару і практычных парад

З НАГОДЫ СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ ЎСІМ ЧЛЕНАМ БГКТ, А ТАКСАМА ЧЫТАЧАМ «НІВЫ» ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ І ПАЖАДАННІ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ І АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

**Галоўнае праўленне БГКТ**
**Рэдакцыя «НІВЫ».**



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (284) | ГОД VII | 22 ЛІПЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР

# НОВЫ БЕЛАСТОК



**Вугал вуліц Генрыха Сянкевіча і Алеі Першага мая.**
Фота: Г. Рагазінскі

ТАДЭУШ СОКУЛ

## БЕЛАСТОЦКІ „КАШАЛОТ“ ПЛЫВАЕ ПА ПАЎНОЧНЫМ

Пазнаёміліся мы на набярэжнай рыбалавецкай базы ў Свінауйсцю.

Якраз з Паўночнага мора вярнуліся судны. Стаялі яны прымацаваныя да берага і чакалі на выгрузку макрэлі, селядцоў і траскавых.

Прывітаўся са мною, загудзеўшы магутным басам:

— А ты што, у шафа будзеш байкокам? Дык дай лапу! Я люблю есці.

Ладонь мая скрылася ў яго велізарнай руцэ.

Праз некалькі дзён ведаў ужо ён, што я журналіст, а калі даведаўся, што з Беластока, схапіў мяне за каўнер і зарагатаў:

— А я, а я, — паўтараў, — я з Белявіч. Што, не ведаеш? Белявічы побач Беластока. Там засталіся бацькі. Брат Аляксандр заканчвае медыцыну, а сястра Галіна — гэтакая шпротка — сёмы клас. Ну яшчэ ёсць нарадзіцца Жэня і дзядзька Казлоўскі.

Твар «Кашалота», а папюдску гаворачы — Яўгенія Марцінчыка пасур'ёзнеў, вочы рассветленыя морам, каўзанулі міма мяне і, мабыць, павандравалі знаёмымі сцежкамі Белявіч.

Палюбіў я Кашалота. Выдзяляўся ён добрадушнасцю, спагадлівасцю і шчырай, непасрэднай прастатой. Падчас вандраванняў з промысла на промысел ў пагоні за рыбай, якая ўсё рассейвалася і гінула, мы часта ўспаміналі наш дом.

Нарэшце амаль усе траўлеры завандравалі на далёкую поўнач. А наш «Свідар» не. Нам папсаваўся кацёл, і мы выцягнулі тралы і заехалі да нарвежскага мястэчка Крыстыянсанда. Затрымаліся тут два дні. За гэты час я, у суправаджэнні журналіста з мясцовай газеты (адной з чатырох, якія выходзяць у Крыстыянсандзе), пазнаёміўся з мястэчкам і аколіцай. Пазнаёміўся з праблемай дзяцей і школ, таксама цяжкай, як і ў нас; даведаўся, што прыбіўшыйся сюды з Амерыкі спосаб паводзін моладзі, падмацаваны даволі грубай эратычна-сенсацыйнай літаратурай, не падабаецца старэйшым нарвежцам, але... (тут адразу наступіла агаворка якая, аж надта гаворыць, што Нарвегія ляжыць у паласе ўплываў НАТО) ...гэта, зразумела, не палітычная барацьба, а толькі змаганне за культуру.

**НОВЫ БЕЛАСТОК.** Скверык і новы жыллёвы дом на вуліцы Эдуарда Прухняка.
Фота: Г. Рагазінскі

Вымушаны я быў таксама адправіць (далікатна, а як жа) з судна некалькіх надакучлівых, маладых людзей, якія прышлі купіць ад нас «вудка».

Здзіўляўся я ў магазінах з розных цэн, скажам, апельсінаў, якія побач сябе ляжалі. Урэшце назахапляўшыся чысцінёй горада, карцінамі фіёрдаў: вады і скал, вады і бедненькіх лясоў, але затое цудоўна загаспадараваных агародаў, мы апыніліся на сваім заўсёды хныкаючым «Свідры» ля англійскага берагоў ў аколіцах Эдынбурга.

(Працяг на стар. 4)

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ

## МАЕ ВАСЕМНАЦЦАЦЬ ГОД

Стаяў адзін са жнівеньскіх дзён 1944 года. Ад ранку сонца сагравала зямлю, у небе спявалі птушкі, а людзі дажыналі апошнія палоскі пшаніцы. Рабілі перапёлкі, што стаяць уквечаны чырвонай рабінай, сінімі васількамі і другімі кветкамі да позняй восені. Неба было спакойнае. На ўсходзе ўжо зрэдку чуліся водгукі стральбы — працягвалася вайна з немцамі. Тады я прыйшоў на свет.

З самых ранніх год нічога не засталося, ніводнага здымка. Помню толькі той лес і лугі над рэчкай Баброўкай, што ўецца сіняю стужкаю між кустоў і палёў. Помню начлег, на які часта забіраў мяне бацька пасвіць коней. Лес над Баброўкай у нашых родных мясцінах быў яшчэ вялікі, часта блудзілі ў ім нават старэйшыя. Цяпер па ім засталіся толькі пні і... ўспаміны. Сюды некалі я гнаў пасвіць статак кароў і тут праводзіў раннія гады без гульні, без апекі бацькоў, а сам — у адзіноцтве.

Мае бацькі хацелі, каб я вучыўся. І вось аднойчы, калі раніцай я не пагнаў пасвіць кароў, бацька сказаў:

«Цяпер, сынок, пойдзеш у школу. Ты сумленны, шчыры і ўжо вялікі хлапец. Калі добра будзеш вучыцца, дык ва ўсім табе дапамагу».

Навука ішла мне лёгка. Здабыў давер у настаўнікаў. Палюбіў моцна сваю родную мову. Тады выйшаў першы нумар «Нівы». Помню, як кіраўнік школы Г. Каролька, пазнаёміў нас упершыню з беларус-

(Працяг на стар. 3)



**НОВЫ БЕЛАСТОК.** Вуліца Кастуся Каліноўскага.
Фота: Г. Рагазінскі

# 18 год Народнай Польшчы

**Штогод з выпадку ліпнёвага свята пішам аб Польшчы. І штогод са здавальненнем сцвярджаем, што маем неабмежаваныя магчымасці гаварыць аб тым усім, што змянілася ў нашай краіне.**

**Сёння пагаворым аб тым, якое месца ў сям'і сацыялістычных краін займае Польшча пасля 18 год свайго існавання.**

**Нашая краіна дае зараз звыш 27% прамысловай вытворчасці ўсіх еўрапейскіх краін народнай дэмакратыі (не ўлічваю тут СССР). Калі возьмем пад увагу валавую вытворчасць, дык займаем першае месца. Калі, аднак, вартасць прамысловай вытворчасці пералічым на аднаго чалавека, дык апераджаюць нас і нават сур'ёзна — Чэхаславакія і ГДР. Аб падрабязных даных гаворыць тут праца А. Карпінскага і Б. Зялінскай, змешчана ў апошнім нумары «Планавай гаспадаркі».**

**З гэтай самай крыніцы можам даведацца аб агромным узросце гаспадарчага патэнцыялу ў Польшчы на працягу апошніх 10-ці год. Вось, напрыклад, калі ў 1950 годзе нашая прамысловасць на аднаго чалавека давала 101 кг сталі, дык у 1961 годзе дае ўжо 240 кг. Адпаведныя даныя для электраэнергіі складаюць: 380 кілават — гадзін і 1075 кілават-гадзін, для сернай кіслаты на аднаго чалавека: 11,5 кг і 26,5 кг. Трэба, аднак шчыра сказаць, што сталі, электраэнергіі, а таксама сернай кіслаты ў пераліку на аднаго чалавека прадукуем яшчэ менш, чым складае сярэдні паказчык для ўсіх краін народнай дэмакратыі. З другога, аднак, боку прадукуем паліва, цэменту, а таксама баваўнянай, ваўнянай і нават сынтэтычнай пражы больш, чым складае сярэдняя ўсіх еўрапейскіх краін народнай дэмакратыі.**

**Вельмі добрае месца займае нашая краіна па размерам і ўзросту сельскагаспадарчай вытворчасці. Калі сельскагаспадарчую вытворчасць у 1950 годзе прымем за 100, дык у мінулым годзе яна склала 139.**

**Цікава выглядаюць даныя, якія датычаць размераў нацыянальнага даходу, прыпадаючага на кожнага чалавека ў Польшчы і ў іншых краінах народнай дэмакратыі. Апераджаюць тут нас толькі Чэхаславакія і ГДР. Варта, аднак, дадаць, што розніца паміж размерам нацыянальнага даходу ў Польшчы з аднаго боку, а гэтага ж даходу ў Чэхаславакіі ці ГДР з другога боку, з'яўляецца меншай, чым розніца ў прамысловай вытворчасці на кожнага чалавека. Вынікае гэта з таго, што на аднаго жыхара прадукуем больш сельскагаспадарчых прадуктаў, чым гэта робіцца ў гэтых краінах.**

**У параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі мы знаходзімся, аднак, ззаду і гэта зусім выразна, калі возьмем пад увагу размеры і тэмпы ўзросту гандлёвага абмену з заграніцай. Калі ў 1960 годзе экспарт на аднаго жыхара ў Чэхаславакіі склаў 141 долараў, у ГДР — 127 долараў, у Венгрыі — 87, а ў Балгарыі — 73, дык у Польшчы толькі 45 долараў. Можам узяць яшчэ іншыя параўнанні. Калі абмен замежнага гандлю ўсіх краін — членаў Узаемнай рады эканамічнай дапамогі — з выключэннем СССР прыняць за 100, дык удзел Польшчы ў гэтым абмене складае толькі каля 18%; а як прыпамінаем, наш удзел у прамысловай вытворчасці гэтых краін складае звыш 27%. Варта тут увагі тое, што, менавіта, апошнія гады прынеслі нам пастаяннае паляпшэнне тэмпаў нашага экспарту.**

**Можам тут спадзявацца шмат прыкметных змен на нашую карысць пасля Маскоўскага пасяджэння Узаемнай рады эканамічнай дапамогі. Яно выявіла проста невычэрпныя магчымасці ў галіне каардынацыі, спецыялізацыі, каапераныі і апрацоўвання шматгадовых планаў развіцця ўсіх сацыялістычных краін.**

**Трэба тут сцвердзіць, што нашая партыя і наш ўрад робяць усё, каб няспынна ўмацоўваць адзінства і супрацоўніцтва сацыялістычных краін, ды і не толькі ў галіне эканомікі, але таксама ў палітычнай і ідэйнай галінах. Прыносіць гэта агромныя карысці, якія цяжка пералічыць на грошы, таму што ў іх нельга акрэсліць значэння адзінства сацыялістычных краін. А гэтае адзінства з'яўляецца сёння галоўнай асновай міру і бяспекі ў свеце.**

**Такія вось думкі спалучаюцца ў нас з чарговым — 18-ым ўжо годам існавання Народнай Польшчы.**

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Усеагульная забастоўка лясных рабочых у Белавежскай пушчы 9)

Агульнапушчанскі забастовачны камітэт з'яўляўся своеасаблівай арганізаванай формай супрацоўніцтва КПЗБ і ППС. Член гэтага камітэта Эдуард Грынкевіч, сакратар ПКР ППС і адначасова сакратар Праўлення аддзялення Прафесіянальнага саюза малазямельных сялян, карыстаўся высокім аўтарытэтам сярод малазямельных і рабочых. Ён часта выступаў сярод рабочых і быў адзіным дзеячом ППС, які вёў прапаганду забастовачнай барацьбы ў Белавежскай пушчы на старонках «Работніка» і «Хлопскай дрогі»

Кіраўнічая функцыя забастовачнага камітэта была даверана Вінцуку Навасаду, шматгадоваму дзеячу КПЗБ з пушчанскай вёскі Пеняжкі. Другім капезэтбоўцам у Камітэце быў Вітальд Астроўскі, які адначасова працаваў ў якасці інструктара праўлення аддзялення Прафесіянальнага саюза малазямельных сялян.

Ад 14 да 20 снежня члены КПЗБ і ПСМС вялі агітацыю за забастоўкай сярод сялян Сухапольскай гміны. Выдатную ролю адыгрываў ў гэтай працы тут Вінцук Навасад. Ён заклікаў сялян да салідарных выступленняў.

Становішча не было простым. Частка лясных рабочых і вазакоў, даведаўшыся аб заканчэнні забастоўкі, прыступіла да працы і зусім не хацела слухаць аб новай забастоўцы. Даходзіла да сутычак. Адной з больш значных была сутычка 16 снежня 1932 г. Жыхары Пеняжак, Глыбокага Кута, Чалядзі і Барка ў ліку каля 200 асоб уварваліся ў 202 квартал і разагналі рабочых, якія там працавалі.

Каб запалохаць бастуючых, санацыйныя ўлады арыштавалі вядучых застрэльшчыкаў забастоўкі на чале з В. Навасадам. Сямёра з іх апынуліся ў арышцэ. Аднак пасля некалькі дзён вышлі яны на волю.

Паліцыйная прафілактыка не дала вынікаў. 21 снежня бастуючыя затрымалі каля вёскі Труханевічы фурманкі вазакоў — штрэйкбрэхераў. Дрэвы скінулі на зямлю, а фурманкі перакінулі на дарозе дагары коламі.

### Пачатак забастоўкі малазямельных

Праследванні не зламалі забастоўшчыкаў. Асабліва актывізаваліся гурткі ПСМС. У гэтым перыядзе забастовачны рух ахапіў паўночна-заходнюю частку Пружанскага павета. Баставала таксама шэраг вёсак Масеўскай гміны.

Кіраўніцтва забастоўкі намагалася пашырыць забастовачны рух. Гэтай мэце прысвечаны быў сход дэлегатаў ПСМС, які адбыўся 27 снежня 1932 г. у Гайнаўцы.

Эдуард Грыневіч, які вёў сход, паведаміў дэлегатаў, што староства забараніла склікаць канферэнцыю прадстаўнікоў цэнтраў, якія вялі забастоўку, таму пастаноўлена было адбыць сход толькі членаў саюза малазямельных.

Члены гэтага саюза, якія складалі інфармацыі, паведамлялі аб забастоўцы ў вёсках Папялеве, Барках Глыбокім Куце, Чалядзі, Рэцку, Масеве І і ІІ, Тушэмлі, Ціхаволі, Гушчавіне, Тарамісках, Броўску, Ківачыне, Рудні. Агулам у гэтым перыядзе баставала звыш 1000 чалавек.

Прадстаўнікі Міклашэва, Гарадзіска, Альхоўкі, Пагарэльцаў Ляснoй і Бабяй Гары паведамлі, што іх вёскі прыступяць да забастоўкі ў найбліжэйшыя дні.

Пасля сходу пачынаецца энергічнае пашырэнне радоў саюза малазямельных. У канцы снежня стаўся ён найбольш масавай арганізацыяй на гэтай тэрыторыі. Аб'ядноўваў гэты саюз малазямельных, сярэднезямельных, а нават беззямельных рабочых.

У гэтым перыядзе забастовачны рух пачаў ахопліваць вёскі Рудніцкай гміны. Першай была вёска Сілічы. Яе барацьбой кіравала мясцовая ячэйка КПЗБ.

Паслядоўнасцю і ахвярнасцю сваіх членаў, КПЗБ выдатна ўзмоцніла сваё становішча. На гэту з'яву з непакоем звяртаў ўвагу ў сітуацыйнай месячнай справаздачы беластоцкі ваявода. «Трэба падкрэсліць, — пісаў ён, — што пад канец забастоўкі (мае на думцы закончаную забастоўку 9. XII. — Б. Н.) яе кіраўніцтва перайшло ў рукі камуністаў».

У паўгадовай справаздачы гэты ж ваявода становішча ў раёне Белавежскай пушчы так характарызаваў: «Пад канец мінулага года (1932 — Б. Н.) камуністычная партыя паставіла пад пагрозу грамадскую бяспечнасць у пушчанскіх пасёлках, Бельскага павета... Выкарыстала яна са значнымі вынікамі забастоўку лясных рабочых у Белавежскай пушчы, якую вяла прафесіянальная арганізацыя ППС».

**БАРЫС НІКІЦЮК**

## „ПАЛІТЫКА" АБ БЕЛАРУСАХ

28 нумар «Палітыкі» ад 14 ліпеня г. г. прыносіць нам прыемны рэпартаж Тадэуша Каладзейчыка аб Гайнаўшчыне. Дарэчы, гэты рэпартаж быў вылучаны на конкурсе «Называлі яе Польшчай Б» у мінулым годзе. Матэрыял, які тут знаходзім, цікава напісаны.

Аўтар, відаць, паклапаціўся, каб зазірнуць глыбей у тутэйшае жыццё, якое сапраўды вартае ўвагі. Вось каштоўны пачын — новыя вясковыя крамы, вось сялянскія дзеці — абсальвенты ўніверсітэтаў, вось барацьба за лепшы ўраджай. Як у калейдаскопе праходзяць перад намі карціны з жыцця беларускага насельніцтва. А адначасова сярод людзей аўтар артыкула адчувае нейкі дух калектывізму, не гэтага ўяўнага, а сапраўднага, якога вызначае імкненне ўсіх — каб лепш жылося.

Прачытаўшы рэпартаж Т. Каладзейчыка ў «Палітыцы», ахоплівае чалавека нейкая радасць, а можа нават гордасць, што маем у нас, тут, на ўскраіне Польшчы, такіх добрых людзей.

**М. Канапацкі**

**Праўленне гарадскога аддзела БГКТ ў Беластоку з глыбокім жалем паведамляе аб смерці актыўнага дзеяча Аддзела, былога члена КПЗБ, вязня санацыйных турмаў, ахвярнага барацьбіта за народную ўладу Язэпа Грыцука і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

**Праўленне Аддзела БГКТ у Беластоку**




# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ

ПЕРАКЛАЎ Хведар Асіпік



### Заручыны

«Атрымаў водпуск ад дваццаць пятага студзеня на дзесяць дзён. Чацвёртага лютага маеш быць у Мюнхене. Цалую. Фатэр».

Гэта нагадвала хутчэй загад, чым запрашэнне.

Тэлеграму Бертгольда Генрых атрымаў на адрас штаба і адразу пайшоў да генерала. Але Еверс тэлеграмы чытаць не стаў.

— Ведаю, ведаю! Мне пазаўчора пазваніў гер

132

Бертгольд, я абяцаў адпусціць вас. Але больш як пяць дзён водпуску даць не магу.

— Шчыра вам удзячны, гер генерал!

На другі дзень у чатыры гадзіны раніцы Генрых высеў з цягніка ў Мюнхене. Пагаліўшыся, ён вырашыў неадкладна ехаць да Бертгольдаў, памятаючы, як нездаволеная была фрау Эльза, калі мінулым разам ён спыніўся спачатку ў прывакзальнай гасцініцы.

А тымчасам Бертгольды, а найбольш сама Лора, шмат далі б, каб Генрых не прыехаў да іх якраз цяпер.

А ён ужо быў у іх. Сустрэлі яго Бертгольд і фрау Эльза. Генрыха крыху здзівіла, што ён не бачыць Лоры.

— Лорхен крыху нездаровіцца і зараз спіць, — вытлумачыў Бертгольд. — Ну, пра ўсё пагаварым потым! А цяпер з дарогі памыйся, пераадзенься, крыху адпачні. Снедаць я прывык па-салдацку, рана. Калі ты не супроць, сустрэнемся гадзін праз дзве ў ядальні.

Генрых з радасцю прыняў гэту прапанову, бо пасля бяссоннай ночы быў змучаны.

Ванна яго крыху адсвежыла, але адначасова і прагнала сон. З гадзіну паляжаўшы, ён пачаў адзявацца і роўна а восьмай выйшаў да ядальні. Снеданне было ўжо на стале. На сваіх звычайных

133

месцах сядзелі Бертгольд і фрау Эльза. Каля месца Лоры стаяла парожняе крэсла.

— Як, Лорхен яшчэ спіць? — здзівіўся Генрых.

— Я не хацеў цябе ашаломліваць непрыемнай навіной адразу. Лора хвора і вельмі цяжка.

— Няўжо нешта сур'ёзнае? — Голас Генрыха захваляваўся, бо шчырая радасць, што заручыны могуць быць адкладзены, сціснула яму горла. Фрау Эльза і Бертгольд зразумелі гэта па-свойму.

— Не хвалюйся, не хвалюйся! Нічога пагражальнага для жыцця, — супакоіў Бертгольд. — Хоць мушу сказаць, што толькі шчаслівы збег акалічнасцей выратаваў Лорхен. Разумееш, два дні таму яна паехала на ферму, якую мы з Эльзай вырашылі вам падарыць. Адна з працаўніц допусціла нейкае нядбальства. Як дзяўчына, што любіць ідэальны парадак, Лора замахнулася на яе бізуном. І тады — уяўляеш гэты жах? — адна з гэтых дзікунак кінулася на Лорхен, збіла яе з ног, а потым выліла на яе амаль цэлы кацёл вару. Ты не можаш сабе нават уявіць, у якім стане я знайшоў яе. Магчыма, што расказ аб бізуне ў руках Лоры, магчыма, бяссонная ноч прычыніліся да таго, што Генрых не вытрымаў. Ён схапіўся з крэсла, нейкім дзіўным позіркам глянуў на Бертгольдаў, нагою адштурхнуў крэсла, на якім мела сядзець яго нарачона, і раптам, нечакана

134

 

## Людзі, сярод якіх мы жывем

# ЁН НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКАМ

У сям'і было іх трох братоў і сястра. Бацькоўская гаспадарка, якая знаходзіцца ў вёсцы Кавалі каля Кузьніцы, не давала асноў да жыцця. Сястра выйшла замуж, старэйшы брат пайшоў на чыгунку, а ён стаў настаўнічаць. Толькі наймалодшы з іх астаўся на гаспадарцы.

Атэстат сталасці здабыў у 1954 годзе, але вучыцца не перастаў.

Бачу яго ў настаўніцкім пакоі. Калі пахіляецца над вучнёўскімі сшыткамі, з-за тоўстых акуляраў глядзяць змучаныя вочы.

— Вось і канікулы, — пачынаю гутарку. — Будзеце мець шмат часу на заслужаны адпачынак. Выбіраецеся дзесьці на курорт?

Настаўнік Чэслаў Ляшук, кіраўнік пачатковай школы ў Сухінічах, Сакольскага павета, адрывае вочы ад вучнёўскага сшытка і праз хвіліну з недаверлівай усмешкай глядзіць на мяне.

— На курорт? — паўтарае мае запытанне. — Нават думаць аб тым не магу. Вось зараз пасля заканчэння школьнага года еду ў Пётркаў. Там чакаюць мяне нялёгкія экзамены. Я вывучаю гісторыю на трохгадовай завочнай настаўніцкай студыі. Зрэшты і без гэтага працы хапіла б тут на месцы. Я з'яўляюся сакратаром грамадскага камітэта ПАПР і кіраўніком партыйнага шкалення. У нашых пярвічных партарганізацыях, як і ўсюды, праводзіцца зараз заканчэнне бягучага года партыйнай адукацыі. Ужо гэта патрабуе маёй прысутнасці амаль у кожнай вёсцы нашага раёну. Падчас апошняй нядзелі правёў я, напрыклад, партсходы ў трох вёсках.

Час канікулаў — гэта гарачы перыяд сезонных прац у сельскай гаспадарцы. Каб яны былі добра праведзены, трэба пільна сачыць і за тым, каб ГС добра і тэрмінова пастаўляў усе неабходныя хлебаробам тавары і каб у ПОМ-е усе патрэбныя машыны былі ў поўнай, так сказаць, баявой спраўнасці. Сакратару ГК неабходна мець адкрытае вока на ўсё.

Гаспадарскае вока каня корміць, гавораць у народзе, — спыняю яго.

— Гэтая прымаўка, як і прымаўкі ўвогуле, не пазбаўлена мудрасці. Дык тады, каб «гаспадарскае вока карміла каня», мне давядзецца правесці канікулы на месцы, хаця і таму, што ўдастоена мяне яшчэ функцыямі старшыні настаўніцкага агніска, старшыні раённай настаўніцкай канферэнцыі, старшыні грамадскага камітэта па грамадскім фондзе пабудовы школ. Мне хацелася б, каб гэтыя функцыі не абмяжоўваліся толькі да ганаровага звання. Кожная з іх патрабуе шмат часу.

— Суткі, як вядома, складаюцца толькі з 24 гадзін. Ці вы ведаеце спосаб на пашырэнне часу, калі можаце справіцца з усімі так шматлікімі абавязкамі?

— Да абавязкаў, аб якіх я ужо ўспамінаў, трэба дадаць свае сямейныя абавязкі. У мяне ж жонка і двое дзяцей. Дзеці яшчэ маленькія і патрабуюць апекі, а жонка вучыцца — завочна канчае сярэднюю школу. Таму трэба ёй часта выязджаць у Беласток.

— Тым больш цікава, што вы робіце каб на ўсё хапіла вам часу?

— Стараюся не страціць здарма ніводнай хвіліны. А найважнейшае гэта тое, што я дакладна прытрымоўваюся плана працы і рацыянальнага падзелу абавязкаў, асабліва ў сябе ў школе.

Са мною працуюць тры настаўніцы. Яны яшчэ маладыя і гадамі, і прафесіянальным вопытам — настаўнічаюць толькі першы год. Але запалу да працы ў іх хоць адбаўляй. Вядзем тады курсы, на якіх дарослыя папаўняюць пачатковую адукацыю. Працуе ў нас таксама школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Адна і другая форма адукацыі сустракаецца ў жыхароў Сухініч і наваколля з вялікім зацікаўленнем.

Настаўніца Ліда Андрэюк арганізавала і паспяхова вяла праблемны курс па беларускай мове. Са слухачамі курсу для дарослых і школы сельгаспадрыхтоўкі арганізавала яна драмгурток і з вялікім поспехам паказала вясковым гледачам дзве беларускія п'есы. Настаўніца Леакадзія Барыс займалася светліцовай працай дарослых. Яна прыгожа грае на мандаліне. Выкарыстоўваючы гэты інструмент, яна вучыла моладзь новым песням, а нават... танцам. Леакадзія заваявала такую папулярнасць сярод моладзі, што знайшлося шмат ахвотных, каб арганізаваць у сябе ансамбль мандаліністаў. Да гэтага,



на жаль, не дайшло, бо Павятовае праўленне Саюза сялянскай моладзі ў Саколцы, нягледзячы на частыя і шчырыя абяцанкі, не дало нам інструментаў.

Людміла Ярашук нямenш ад нас прысвячае ўвагі грамадскай працы.

— Згода і працавітасць ўсіх настаўнікаў з'яўляецца асноўным фактарам, які дапамагае мне справіцца з усімі маімі абавязкамі.

Кіраўнік просіць мяне паглядзець школьны агарод. На роўных, невялікіх палосках зеляняюць розныя сельгаскультуры.

— Гэта вопытныя пасадкі, — паясняе кіраўнік. — Тут вучні практычна вучацца скарыстоўваць розныя ўгнаенні пад розныя расліны.

Паказваю доўгую палоску, на якой растуць высокія саджанцы.

— Гэта ўжо нашая школьная, так сказаць, гаспадарча - вытворчая дзялянка. Мы маем падпісаны дагавор з надлясніцтвам на вырошчванне саджанцаў лісцяных дрэвак. Вось гэтую плантацыю надлясніцтва ў нас ужо купіла. Калі саджанцы дастаткова падрастуць, мы высадзім імі дарогі ў наваколлі Сухініч.

— Гэта прыносіць вам даход.

— Ад прыбытку галава не баліць. Даход дае нам таксама кантрактацыя ільну, на якім мы ўжо зарабілі да 5 тысяч зл. Гэта выдатная падтрымка для нашага школьнага бюджэту

Развітваючыся з кіраўніком, я яшчэ раз кідаю вокам на яго памешканне. Невялічкі, адзіны пакойчык, які служыць і за кухню, і за спальню, і за кабінет да працы. Не магу паўстрымаць думкі: тут жыве і гуляе двое малых (дашкольнага ўзросту) дзяцей, а муж і жонка вучацца!».

Здаецца мне, што ГРН, інспектарат і ўсе іншыя ўстановы павінны ўрэшце пабачыць Чэслава Ляшука не толькі тады, калі ў іх ахвота «ўдастоіць» яго нейкай новай функцыяй.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

**«Новае жыццё ў дратах прыходзіць**
**Без сахі, цапоў і верацён».**

**(«Святло» — А. Барскі)**

# 1850 ВЕСАК

Аднойчы, позним вечарам ехаў я з Гайнаўкі ў Беласток. Направа замільгала гірланда агнёў Крыўца. На прыстанку нехта высеў і знік у цемнаце. Непадалёку мігацела цьмяным водблескам нафтавай лямпы акно крайняй хаты. Гэта вёска Ласінка.

Нечакана ўспомнілася мне пэўнае здарэнне з мінулагодняга Цэнтральнага конкурсу беларускіх мастацкіх гурткоў. Аматарам з Семяноўкі прызнана тады як узнагароду адаптар «Каралінка». Кіраўнік гуртка Ніна Б. радасна дзякавала арганізатарам. Неяк, пасля ўрачыстасці, застаў яе амаль не ў слязах. Прычына? Адаптар працуе на электрычнасць, а ў іх мясцовасці яе няма...

* *

Яўген Лісоўскі з ваяводскага аддзела сельскай гаспадаркі сыпле лічбамі «як з рукава». Да 1970 года будзе электрыфікаваных 98% вёсак Беласточчыны. Практычна, застануцца пры нафтавай лямпе толькі невялічкія пасёлкі ды калёніі. У канцы бягучай пяцігодкі стан электрыфікацыі дасягне паказчыка 66% ва ўсіх паветах. Гэтыя працэнты абазначаюць тысячы і дзесяткі тысяч ярка асветленых сялянскіх хат. Цяжка ўявіць сабе, што ў 1939 годзе электрычнае святло мела... аж 20 (дваццаць) вёсак, у асноўным, прыгарадных. — Пад канец года, — гаворыць Лісоўскі, — на тэрыторыі ваяводства будзе ўжо электрыфікаваных 1850 мясцовасцей.

Поўныя добрых надзей паехалі мы да Беластоцкага прадпрыемства электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ў Старасельцах. Мгр інж. Рышард Петшак паведаміў нам прыемную навіну — у III і IV-ым квартале прыступаем да электрыфікацыі 38 вёсак у Гайнаўскім павеце. Разам 1351 гаспадарак, — дадае. У Луцэ, Барысаўцы, Скупаве, Альхоўцы, Семяноўцы ці Ласінцы таксама пасвятлеюць куткі сяліб. Кошты? 10 мільёнаў 700 тыс. зл. Можна палічыць колькі зл. прыпадае на адну гаспадарку...

Бліжэйшыя планы? Інжынер Петшак усміхаецца. — У 1963 г. возьмем «на варштат» Сакольскі і Дуброўскі паветы; а ў 1964 г. — Бельскі і Сямяціцкі.

Інсталяцыйныя праекты тэхнікі ўзгадняюць загадзя, на месцы — у вёсках. Некаторыя сяляне хочуць мець — за адплатнасцю — больш пунктаў асвятлення ці сілавых кантактаў, чымся прыслугоўвае па велічыні данай гаспадаркі. Тады трэба звярнуцца з гэтай справай да тэхніка яшчэ перад заканчэннем апрацоўкі праекта плана электрычнай інсталяцыі і ўплаціць прытым належную суму грошай. У іншым выпадку, калі зацверджаны інсталяцыйны план вёскі і пачынаюцца электрыфікацыйныя работы, прадпрыемства не можа прыняць больш ніякіх заказаў на выкананне вышэй успомненых дадатковых пунктаў па прычыне, перш за ўсё, коштаў карэкты планаў. На жаль, таму ці іншаму гаспадару найчасцей прыходзіць ахвота абсталяваць дадатковы пункт тады, калі ўжо адбываюцца манцёрскія работы. Пачынаюцца просьбы, скаргі і дамаганні... «Аглянуўся Гаўрыла, як паўкашулі згарэла»! — як кажуць у народзе.

— Электрыфікуючы вёску, — працягвае свае вывады інжынер, — ствараем людзям не толькі магчымасці карыстацца дабрадзействамі тэхнікі, але і вучым іх — як карыстацца? Гэта вельмі важнае, каб пазбегнуць марнатраўства і несвядомай дэвастацыі абсталявання. Прывозім матор, сціральную машыну, пыласос, электрычную швейную машыну. Тлумачым і дэманструем насельніцтву правілы эксплуатацыі, раскрываем «таямніцы» хатняй інсталяцыі...

Жыццё на гаспадарцы працавітае, цяжкае. Чалавек шукае выручкі ў механізацыі, намагаецца мець больш адпачынку, больш свабоднага часу... Знаходзіць у ім сваё месца кніжка, часопіс, радыё. Дзякуючы эканоміі часу і працы!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# ВЕСТКІ З КЛЯШЧЭЛЯЎ

Грамада Кляшчэлі, на Гайнаўшчыне, вядома вялікай колькасцю грамадскіх чынаў. Абавязацельствы ўсіх жыхароў грамады на грамадскія чыны за 1962 год складуць суму 1 мільёна 370 тысяч зл. Ад душы жадаем рэалізаваць гэтыя вялікія абавязацельствы.

*

А як выглядае справа ў вашай грамадзе з выкананнем грамадскага фонду на пабудову школ, — спытаў я старшыню прэзідыума ГРН.

— Сёлета мы добра стаім. Ужо ГФБШ выкананы ў 110 прац., а ў 100 прац. быў зрэалізаваны ўжо 24 мая.

*

Прэзідыум ГРН у Кляшчэлях займаецца вельмі каштоўнай справай. Ён вырошчвае дэкарацыйныя, фруктовыя і іншыя дрэвы, прыгодныя да абсаджвання дарог. І так у дзвюх «шкулках» расце 500 фруктовых дрэвак, 200 штук акацый, 800 штук ясеняў, 200 ліпы і 600 штук дэкарацыйнай акацыі.

*

Прэзідыум ГРН у Кляшчэлях апякуецца старымі людзьмі, якія не маюць ніякай дапамогі. Апякуецца таксама ўдовамі і бездапаможнымі калекамі. Падапечных людзей знаходзіцца там 16 асоб, якія атрымоўваюць грашовую дапамогу. Як бачым, апека «спалэчна» працуе там нядрэнна. (мх)

# ТЭЛЬ. 33-58 „SERVIS“

Гэта нумар тэлефона і назва пастаяннай аварыйнай экіпы ў дапамогу механізатарам падчас жніўных і абмалотачных работ. Яе ініцыятарам з'яўляецца Беластоцкае прадпрыемства гандлю сельскагаспадарчым абсталяваннем у Старасельцах пад Беластокам.

«Servis» мае шмат спецыялістаў, поўны выбар запасовых частак, а таксама ўласны транспарт. Аварыйныя працы можа праводзіць у любых умовах, што асабліва важнае для сельскагаспадарчых гурткоў, якія яшчэ, наогул, не маюць сваіх рамонтных майстэрняў. А да бліжэйшага ПОМ-у трэба ехаць за дзесяткі кіламетраў. Так, так бо, напрыклад, Сакольскі і Дуброўскі паветы абслугоўвае толькі адзін ПОМ у Бухвалове.. (ся)



 




## КУР'ЁЗЫ

### ЛЯ ФАНТАНА

У цэнтры Рыма, дзе знаходзіцца адзін з найслаўуцейшых фантанаў «Фантана Трэві», чатыры гады назад адна з французскіх кіназорак распранулася ў прысутнасці натоўпу людзей, акунулася ў басейн і паказала прысутным сцэнку — «Афрадзіта, якая выходзіць з марской пены». Гэта выклікала сенсацыю. і з таго часу фантан стаў месцам паломніцтва кіназорак. якія стараюцца стварыць сабе рэкламу. Асабліва многа «Афрадзіт» з'яўляецца ў вячэрні час. калі фантан асвятляецца пражэктарамі. Цяпер ля фантана ўстаноўлены паліцэйскі пост з круглaсутачным дзяжурствам.



Без слоў



## САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### У СУДЗЕ

Суддзя: — Чаму вы ударылі яго нагой ў жывот?

Абвінавачаны: — Не ведаў, што ён так хутка адвернецца.

Прыслаў **Янка Данільчук**

★ ★ ★

### ЦІ ПАМОЖА

Жонка прыносіць у хату дзве куркі і кажа да мужа:

— Яны, гэтыя куркі, перасталі несці яйкі, трэба іх парэзаць.

Муж: — А ці гэта паможа?

Прыслаў **Б. Д.**

★ ★ ★

### НА ДАРОЗЕ

Ідзе дзед дарогай. Наганяе яго фурманка. Фурман спыняе каня і крычыць:

— Дзеду, сядай!

— Няма часу, трэба ісці, — адказаў дзед.

Прыслаў **Аляксандр Макаль**

★ ★ ★

### ДОБРАЯ РЭПУТАЦЫЯ

— Як вас называюць?

— Як хто хоча: жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суседзі — зладзеем. Толькі адзін адвакат хваліць.

Прыслаў **Юрка Шумелюк**

★ ★ ★

### ЗАДАВОЛЕНЫ

— Чаго ты вясёлы, Валодзя?

— Быў я ў зубнога лекара.

— Што ж у тым вясёлага?

— Не знайшоў яго, выехаў ён на некалькі дзён у горад.

Прыслала **Анна Варанчук**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Аляксандра Пацкевіча з Нарзві і Мечыслава Шэршановіча з Заблудова змяшчаем песню

## УРАЛЬСКАЯ РЯБИНУШКА

Словы: М. Піліпенка Музыка Е. Радыгіна

Вечер тихой песнею над рекой плывёт.
Дальними зарницами светится завод.
Где-то поезд катится точками огня,
Где-то под рябинушкой парни ждут меня.

Припев:
Ой, рябина кудрявая,
Белые цветы,
Ой, рябина, рябинушка,
Что взгрустнула ты.

Лишь гудки певучие смолкнут над водой,
Я иду к рябинушке тропкою крутой.
Треплет под кудрявою ветер без конца
Справа кудри токаря, слева — кузнеца.

Припев:

Днем в цеху короткие встречи горячи,
А сойдемся вечером, сядем и молчим...
Смотрят звезды летние молча на парней
И не скажут ясные, кто из них милей.

Припев:

Укрывает инеем землю до бела.
Песней журавлиною осень проплыла.
Но тропинкой узкою там же, между гор,
Мы втроем к рябинушке ходим до сих пор.

Припев:

Кто из них желаннее, руку сжать кому?
Сердцем растревоженным так и не пойму...
Хоть ни в чем не схожие, оба хороши,
Милая рябинушка, сердцу подскажи!

Припев:

МІКОЛА СІСКЕВІЧ

## ПРАДБАЧЛІВЫ

Іван пытаецца ў Максіма:

— Чаму Лявон стаў ветлівы з усі

— Дык гэта ж ён, няйначай,

як перад справаздачай.



— 25 гадавіна шлюбу, а ён як жывое серабро.



## ПАТОП

Скупыя дашлі да нас гістарычныя звесткі аб патопе. Здагадваемся, што прабацька Ной быў майстрам на ўсе рукі. Без праекта і пяцігадовага плана пабудаваў ён неймавернай велічыні карабель. Да таго часу, як дождж пачаў весці сваю шкодніцкую дзейнасць, грамадзяні Ной з жывым інвентаром знаходзіўся ўжо на каўчэгу. Безбілетныя пасажыры — а было іх «кожнай твары па пары» — падрыхтаваліся своечасова да гістарычнай экскурсіі.

Як толькі паднялася вада капітан Ной крыкнуў ў машыннае аддзяленне:

— Поўным ходам, наперад!

І каўчэг паплыў па хвалях уяўлення. Доўга плываў карабель. Капітан Ной ад беспрацоўя распяваў самую модную песню таго часу:

Дожджык, дожджык, перастань.

Усе плывем мы ў Ярдань.

Калі апала вада, Ной прычаліў да гары Арарат і прышвартаваў карабель да вясёлкі.

Больш нічога мы не ведаем з гісторыі. У сапраўднасці ж то мы перажылі другі патоп у гэтым годзе.

Адносіны нашы з начальствам не былі так блізкімі, як у Ноя, таму не ведалі мы аб набліжэнні патопу.

Дажджлівая пагода ўвяла ў нашы рады поўную разгубленасць. А дождж працавіта працаваў паўтара месяца без выхадных.

На агародах радыска, салатка і іншая зеляніна апілася вадою і пажоўкла. У каго бульба была пасаджана — пагніла. Азімы пасеў палажыўся, быццам па ім катком праехалі. Закаханыя, не маючы магчымасці сустракацца пад дажджом, сумна зацягвалі вечарамі ў адзіноцтве:

І шуміць, і гудзе,

Дробны дожджык ідзе.

Людзі пачалі разводзіць антымонію. Некаторыя грамадзяне прытрымліваліся думкі, што за нашыя грахі правалілася неба. Знаходзіліся жыхары, якія даказвалі, што ў горадзе слаба працуе вадаправодная сетка і сілы нябесныя дапамагаюць нядбайным камунальным працаўнікам у напаўненні вадаёмаў. Толькі дакладчыкі, якія прывыклі на сходах ліць ваду, уцешыліся водаабеспячэннем.

Знаёмы журналіст з нагоды працяглай актывізацыі дажджавой вытворчасці браў інтэрв'ю ў сельгасжывёлы.

Конь сказаў: — Абрыдла горш палыну шлёпаць капытамі па размоклых дарогах і вяртацца ў канюшню з мокрым пузам. Конскае здароўе не выратуе мяне ад рэўматызму.

Свіння адказала: — Хоць гразь люблю, бы жалуды, але гэтакай гразі маю ўжо па вушы.

Баран прызнаўся: — Ад пастаяннай макрыні рогі мае адсырэлі. Баюся адварачвацца ад ветра, могуць выпраставацца рогі і тады загіне прыгажосць мая барання.

Карова заявіла: — Маё племя не мае нічога супольнага з рыбім родам, таму такая колькасць вады для мяне лішняя.

Казёл, задраўшы бараду, прамовіў: — Ад такога дажджу карысць, бы з казла — малако.

Выходзіць, грамадзяне сімпатычныя, што сёлеташні патоп не толькі нам абрыд.

Дзядзька Лявон